ВЫДАЕЦЦА З САКАВІКА 1935 ГОДА

# КІРАВЕЦ

СЕРАДА, 19 ліпеня 2000 г.

№55 (8124)

Раённая грамадска-палітычная газета

Узнагароджана Ганаровай граматай Вярхоўнага Савета БССР

Цана 24 руб.

## ОБЪЕДИНИМ УСИЛИЯ В БОРЬБЕ ЗА КАЧЕСТВЕННУЮ УБОРКУ ЗЕРНОВЫХ!

### Обращение председателя облисполкома М.В.Дражина к жителям Могилевщины

**Дорогие друзья!**

Близится один из самых ответственных периодов сельскохозяйственных работ — уборка урожая зерновых.

Многодневный кропотливый труд на хлебной ниве должен получить достойное завершение. Ведь посеять и вырастить — это только половина дела. Не менее важно вовремя собрать и сохранить все выращенное, присоединить его к общегосударственному хлебному караваю. Ибо народная мудрость гласит: "Не тот урожай, что на полях, а тот, что в закромах".

Неблагоприятные погодные условия, другие объективные и субъективные причины оказывают негативное воздействие на посевы. В этой ситуации на первый план выходит такой важный фактор, как напряженная, целеустремленная работа всех кадров агропромышленного комплекса. Бытующие у отдельных руководителей, специалистов, рядовых тружеников безответственность, безразличие, иждивенчество порождают бесхозяйственность. А за это приходится дорого платить. В результате происходят неоправданные потери урожая, порча выращенной сельскохозяйственной продукции, что недопустимо.

На этой самой главной задаче текущего момента я акцентирую внимание всех кадров прежде всего потому, что слишком свежи в памяти условия, в которых мы работали прошедшую зиму по обеспечению людей хлебопродуктами и животноводства — кормами. Я назову только одну итоговую цифру.

За истекший зимний период по состоянию на 1 июля мы затратили на закуп зерна 10 млн. долларов. Кроме этого, предприятия области за счет собственных средств завезли зерна более чем на 2 млн. долларов, что составляет сумму квартальной зарплаты всех работников бюджетной сферы области. За эти средства мы могли бы содержать всю медицину области целый год. Возникает вопрос. Или мы настолько богаты, или у предприятий некуда эти деньги истратить? Или у нас свободные деньги в бюджете? Конечно, нет. И вместо того, чтобы направить эти средства на первоочередные потребности медицины, культуры, образования, мы вынуждены были отдать их на зерно, так как без него никак не обойтись.

Можно ли было избежать этих трат?

В условиях прошлого года — наполовину. В условиях этого года мы обязаны от них уйти полностью. Для этого не надо никаких дополнительных средств. Надо одно, самое главное, — предельная ответственность всех, кто будет задействован на уборочной страде. Комбайн, выходящий в поле, должен быть подготовлен так, чтобы все потери, кроме технологических, были невозможны. Их наличие считалось бы ЧП со всеми вытекающими отсюда последствиями.

Давайте рассмотрим реальную ситуацию с урожаем этого года. Экспертная оценка количества хлеба на корню уже у нас есть.

Так вот. При выполнении требований, изложенных мной выше, потеряем около 28 тысяч тонн, если нет — 80 тысяч тонн. Это при нормальных погодных условиях. Что такое эти 80 тысяч тон? Те же 10 млн. долларов, которые снова придется выложить из областной казны на покупку зерна. Указанной суммы хватает на оплату всех затрат на уборку и сев озимых по всей области.

Более того, этих денег достаточно, чтобы четыре раза погасить селянам весь долг по зарплате, составляющий сейчас 2,6 млн. долларов. Уверенность в том, что мы можем не допустить потерь, мне дает наличие кадров, которые не на словах, а на деле понимают непреложную истину о том, что хлеб — всему голова, он всегда был мерилом всех ценностей.

Среди них руководители хозяйств, специалисты, бригадиры, комбайнеры. Посмотрите. Даже в крайне неблагоприятных условиях прошлого года истинные мастера подтвердили свой класс, намолотив более тысячи тонн зерна на условный комбайн. Среди них Цупрев Виктор Иванович из племхоза имени Чкалова Горецкого, Шаламков Михаил Владимирович из колхоза имени XXII съезда КПСС Бобруйского, Вербенко Михаил Васильевич из колхоза "Рассвет" имени К.П.Орловского Кировского районов. И эти слова своего обращения я адресую прежде всего им и их коллегам — комбайнерам области. От вас, уважаемые труженики, в первую очередь зависят результаты уборки, финиш многомесячного труда, тепло в домах зимой, полнота прилавков магазинов, цены на продукты питания. От имени руководства области прошу вас проявить свои лучшие человеческие, профессиональные и гражданские качества и сделать все от вас зависящее для полного сбора выращенного урожая.

Я обращаюсь к ветеранам сельскохозяйственного труда, сельской интеллигенции, учащимся школ, подросткам и студентам, отдыхающим в деревне в период летних каникул: окажите посильную помощь хозяйствам в святом деле — уборке хлеба. Она им очень нужна.

Уверен, что, как и в прошлые годы, значительную поддержку окажет селу город, поровну делящий успехи и неудачи с селянами. Прошу всех горожан, привлеченных на уборку или выполняющих заказы для села, с высочайшей ответственностью, качественно выполнить свою часть работы. Вы знаете, что значит простоять комбайну несколько дней из-за некачественного ремонта узла или агрегата.

Самая серьезная ответственность в этот период ложится на транспортников, работников заготовительных предприятий. Не допустить потерь при перевозках, заложить на хранение качественное зерно — ваша главная задача.

Безусловно, вся четкость организационной и технологической цепочки целиком и полностью зависит от руководителей и специалистов хозяйств, районов, всех служб облагропрома. К ним — мои особые слова по полному обеспечению технологии уборочного цикла, скоординированной работе и строжайшей персональной ответственности за результаты работы.

Призываю еще раз всех, кто будет задействован на уборке урожая, проявить предельную ответственность. Слишком много усилий потребовалось нам для того, чтобы вырастить все, что посеяли. И мы не имеем морального права потерять плоды своих трудов на завершающем этапе.

Надеюсь на ваше понимание важности поставленной задачи как своих коллег, товарищей по работе, вместе со мной создающих благополучие жителей нашей области. Решим эту задачу качественно — всем хватит наград, добрых слов, благодарностей. Не решим — оценку нам даст Президент, люди, ради которых мы работаем. Давайте объединим усилия и выполним ее с честью.

## * Людзі і лёсы



***За плячыма Віктара Васільевіча Грышкевіча багаты вопыт работы механізатарам у Вілейскім раёне Мінскай вобласці. Гады са два таму Грышкевічы перабраліся ў Любонічы. Пераехалі бліжэй да дачкі, якая з сям'ёй жыве ў Бабруйску. У калгасе гаспадару прапанавалі трактар К-700, а гаспадыні, Вандзе Міхайлаўне, пасаду загадчыцы мясцовай фермы, дзе ўтрымліваецца маладняк буйной рагатай жывёлы.***

***— Па праўдзе кажучы, — характарызуе Грышкевіча старшыня калгаса "Радзіма" Аляксандр Уладзіміравіч Вербінаў, — не верылася, што механізатар паставіць на ногі сталёвага каня. Падставы так лічыць былі: двое ці трое мясцовых трактарыстаў браліся за рамонт, але нічога ў іх не атрымалася. Віктар Васільевіч падняў гэты трактар, што называецца, з-пад плоту. Мінулай восенню і вясной ужо быў заняты на ворыве. А што такое энерганасычаны К-700 на палявых работах, тлумачыць не трэба. Вызначыўся Грышкевіч і на трамбоўцы сянажнай масы. Нягледзячы на бедны травастой, нам ўдалося нарыхтаваць 460 тон сенажу. Зараз механізатар рыхтуе свой агрэгат да летне-асенняга ворыва глебы.***

***Старанныя, добрыя людзі пераехалі ў Любонічы. Праўда, няма пакуль што свайго жылля, таму даводзіцца здымаць кватэру. Дакладней, асобны дом. У праўленні думаюць над тым, як дапамагчы гэтым руплівым працаўнікам.***

**На здымку:** ***В.В.Грышкевіч.***

**Фота Івана Лукановіча.**

## ВЕСТКІ З ПАЛЁЎ

**Па дадзеных райсельгасхарчу, па становішчу на 18 ліпеня г. г. у гаспадарках раёна выкананы наступныя работы:**

*травы 1 укосам скошаны* ***на 16232 гектарах,*** *што складае* ***100,9%*** *да плана;*

**нарыхтавана:** ***6115 тон сена — 40,8%*** *да плана, у тым ліку для насельніцтва —* ***1043 тоны; 18872 тоны сенажу — 54%*** *да плана;* ***1759 тон сіласу — 3,8%*** *да плана;* ***66 тон*** *травяной вітамінная мукі —* ***4,4%*** *да плана.*

*На ўмоўную галаву жывёлы маецца па* ***4,9 центнера*** *кармавых адзінак. У саўгасе імя Кірава нарыхтавана па* ***9,2,*** *СКП "Чырвоны баец" —* ***8,5,*** *СКП "Ніва"—* ***7,4,*** *калгасах "Беларусь" —* ***5,8*** *і імя Кірава —* ***5,2 цэнтнера.***

*У калгасе"Рассвет" імя К.П.Арлоўскага ўбрана* ***52 гектары*** *азімага рапсу, з якіх намалочана* ***107 тон*** *насення.*

*Супраць каларадскага жука апрацавана* ***827 гектараў*** *бульбы, супраць фітафторы —* ***1217.***

*Падкормлена* ***4414 гектараў*** *траў пасля 1 укосу.*

*Пад сяўбу азімых культур узарана* ***220 гектараў*** *глебы.*

## СТАРТАВАЎ ВЫБАРЧЫ МАРАФОН

Назначаным на 15 кастрычніка 2000 года Прэзідэнтам краіны выбарам у Палату прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу было прысвечана пасяджэнне Цэнтральнай выбарчай камісіі па выбарах і правядзенню рэспубліканскіх рэферэндумаў.

Паводле слоў старшыні Цэнтрвыбаркама Лідзіі Ярмошынай, менавіта з гэтага дня пачынаецца трохмесячны выбарчы марафон, які будзе для краіны важнейшай палітычнай падзеяй апошняга года адыходзячага стагоддзя. Назначэнне даты выбараў, несумненна, унясе змяненні ў вялацякучае летняе палітычнае жыццё, надасць яму новы дынамізм. Любыя змяненні ў дзяржаўнай уладзе заўсёды прыцягваюць увагу насельніцтва, адзначыла кіраўнік Цэнтрвыбаркама, а выбары і з'яўляюцца адным са сродкаў пераразмеркавання палітычных сіл у грамадстве.

Да маючых адбыцца выбараў прыкавана асаблівая ўвага грамадскасці як унутры краіны, так і за мяжой. Гэта звязана і з палітычным становішчам у рэспубліцы, і з прыняццем новага Выбарчага кодэкса, у якім у канцэнтраванай форме выкладзены асноўныя правілы выбарчай гульні. Дарэчы, у гэтым дакуменце змяшчаецца шэраг новаўвядзенняў, якія значна ўзбагачаюць дэмакратычныя прынцыпы выбарчай кампаніі. Гэта датычыць пашырэння правоў наглядальнікаў, працэдуры праверкі падпісных лістоў і многага іншага.

На першым арганізацыйным пасяджэнні Цэнтрвыбаркама зацверджаны ўвесь пакет выбарчай дакументацыі: формы бюлетэняў, падпісных лістоў, пратаколаў і іншых абавязковых у гэтых выпадках папер. Прыняты каштарыс расходаў. Атрымала дабро метадычнае пісьмо ў дапамогу мясцовым выбарчым камісіям, у якім дадзены тлумачэнні тым або іншым палажэнням выбарчага заканадаўства.

На пасяджэнні камісіі зацверджана пастанова, якая датычыць парадку галасавання за мяжой, рэгістрацыі замежных і мясцовых наглядальнікаў, выкарыстання бюджэтных і пазабюджэтных сродкаў. У прыватнасці, у адпаведнасці з Указам Прэзідэнта "Аб назначэнні выбараў", у мэтах дадатковага фінансавання выбарчай кампаніі ствараецца пазабюджэтны фонд для добраахвотнага пералічэння ў яго сродкаў грамадскімі аб'яднаннямі, іншымі арганізацыямі і грамадзянамі Рэспублікі Беларусь. Такі фонд дзейнічаў і пры правядзенні выбараў у мясцовыя Саветы, аднак, на жаль, сродкаў у яго не паступала. Кіраўнік Цэнтрвыбаркама спадзяецца, што цяпер становішча зменіцца да лепшага, і выбарчая нагрузка на дзяржбюджэт будзе меншая.

Выбарчы марафон узяў старт. Ужо нарэзана 110 акруг. Выбраным у іх праз тры месяцы прадстаўнікам заканадаўчай улады будзе суджана адкрываць палітычную карту нашай краіны трэцяга тысячагоддзя.

**БелТА.**



## СЕЗОН НАРЫХТОВАК

Лета, восень — актыўны сезон нарыхтовак на прадпрыемстве "Каапнарыхтпрам". Тут вядзецца прыём ягад, грыбоў, агародніны, фруктаў — усяго таго, чым з ліпеня па кастрычнік багатыя лясы, сады, палі і агароды.

І сёлета нарыхтоўшчыкамі прадпрыемства, іншымі работнікамі прадпрымаецца ўсё магчымае, каб не знізіць аб'ём нарыхтовак. Так, чорнай парэчкі закуплена 9 тон, прынята 1 тона чарніц. Вядзецца прыём вішань, пакуль іх нарыхтавана нямнога — 50 кілаграмаў, але сёлета ўраджай на вішні багаты, і тут мяркуюць, што насельніцтва яшчэ актывізуе здачу гэтых пладоў.

Ягады "Каапнарыхтпрам" накіроўвае на перапрацоўку на Магілёўскі харчовы камбінат.

Вядзецца прадпрыемствам нарыхтоўка грыбоў "лісічак", іх тут маюць на сённяшні дзень 200 кілаграмаў. "Лісічкі" засальваюцца для далейшай рэалізацыі.

Распачаты прыём свежай бульбы — яе закуплена 500 кілаграмаў. Прымаюць свежую капусту. Яна і бульба паступаюць на паліцы магазінаў "Каапнарыхтпрама". У хуткім часе пачнецца нарыхтоўка агуркоў.

**Ул.інф.**

Нашы інтэрв'ю

# УПЛАТА ЎЗНОСАЎ— АБАВЯЗКОВАЯ

**5 чэрвеня бягучага года падпісаны Указ Прэзідэнта рэспублікі "Аб Фондзе сацыяльнай абароны", якім зацверджана Палажэнне аб уплаце абавязковых страхавых узносаў у Фонд. Дадзены Указ пачаў дзейнічаць з 1 ліпеня. Чым выклікана такое рашэнне кіраўніка краіны,ці зменіцца становішча з уплатай узносаў пасля прыняцця дакумента? З гэтымі і іншымі пытаннямі мы звярнуліся да начальніка раённага аддзялення Фонду сацыяльнай абароны насельніцтва З.М.Ставер:**

— Палажэнне вызначае дакладны парадак уплаты абавязковых страхавых узносаў і іншых плацяжоў у Фонд сацыяльнай абароны насельніцтва. Не сакрэт, што многія прадпрыемствы, арганізацыі, гаспадаркі з'яўляюцца пастаяннымі даўжнікамі Фонду. Так, па становішчу на 1 ліпеня г.г. агульная сума запазычанасці па нашаму раёну склала 53,7 мільёна рублёў. Сярод неплацёжаздольных — калгасы: "Беларусь" — 7 мільёнаў рублёў, "Рассвет" імя К.П.Арлоўскага — 5,6, "Камуніст" — 5,1, імя Калініна — 3,9, імя Свярдлова — 3,8, СЗАТ "Бераснёўскае" — 3,8 і іншыя. Што датычыць прадпрыемстваў, то больш за іншых запазычыўся Фонду дрэваапрацоўчы камбінат — 1,3 мільёна рублёў.

Указ Прэзідэнта краіны нацэлены на тое, каб пенсіянеры, інваліды, мнагадзетныя сем'і і іншыя катэгорыі грамадзян, адзінымі крыніцамі даходу якіх з'яўляюцца выплаты нашага Фонду, свае пенсіі і дапамогі атрымлівалі своечасова.

***— Зоя Мікалаеўна, скажыце, калі ласка, ці ўсе юрыдычныя і фізічныя асобы, якія прадастаўляюць работу грамадзянам па працоўных дагаворах, абавязаны зарэгістравацца ў якасці плацельшчыкаў у раённым аддзяленні Фонду?***

— У Палажэнні аб уплаце абавязковых страхавых узносаў і іншых плацяжоў у Фонд сказана, што ўсе юрыдычныя і фізічныя асобы, незалежна ад таго, прадастаўляюць яны работу грамадзянам па працоўных дагаворах ці на падставе членства або па грамадзянска-прававых дагаворах, прадметам якіх з'яўляецца аказанне паслуг, выкананне работ і стварэнне аб'ектаў інтэлектуальнай уласнасці, абавязаны зарэгістравацца ў якасці плацельшчыка ў Фондзе. Пры гэтым колькасць працуючых у арганізацыі, на прадпрыемстве, у гаспадарцы не мае значэння.

***— Ці распаўсюджваецца зацверджанае Палажэнне на членаў сялянскіх (фермерскіх) гаспадарак?***

— Члены сялянскіх (фермерскіх) гаспадарак за сябе і членаў сваёй гаспадаркі штомесячна ўплачваюць абавязковыя страхавыя ўзносы з сумы вызначанага імі даходу, але не менш адной мінімальнай заработнай платы і не пазней 15 чысла месяца, за які павінны ўплачвацца ўзносы. Што датычыць уплаты страхавых узносаў за наёмных грамадзян, то парадак устаноўлены такі, як і для іншай юрыдычнай асобы.

***— Якім чынам абавязаны разлічвацца з Фондам прадпрыемствы, арганізацыі, гаспадаркі, у якіх адсутнічаюць фінансавыя сродкі?***

— У бясспрэчным парадку неабходныя сумы плацяжоў спаганяюцца з рахункаў іх дэбітораў. Пры адсутнасці грашовых сродкаў на рахунках дэбітораў спагнанне запазычанасці, а таксама пені, іншых фінансавых санкцый і адміністрацыйных штрафаў ажыццяўляецца ў судовым парадку.

Калі плацельшчык не ўнёс у вызначаны тэрмін суму плацяжоў, незалежна ад прычыны, па якой яна не паступіла ў Фонд, указаная сума лічыцца нядоімкай. На яе за кожны дзень пратэрміноўкі налічваецца пеня ў памеры ўліковай стаўкі Нацыянальнага банка, дзейнічаючай на дату спагнання ўказанай сумы.

***— Зоя Мікалаеўна, скажыце, якая адказнасць прадугледжана для плацельшчыкаў у выпадку парушэння імі тэрмінаў рэгістрацыі ці ў выпадку ўтойвання сум выплат?***

— Калі суб'ект гаспадарання парушае тэрміны рэгістрацыі, з яго спаганяецца 10 працэнтаў падлягаючай да ўплаты сумы абавязковых страхавых плацяжоў. У выпадку ўтойвання сум спаганяецца ўся сума і штраф у памеры гэтай сумы, а пры паўторным парушэнні — штраф у двайным памеры.

***— У працоўнага насельніцтва складваецца думка, што яно абавязана кагосьці ўтрымліваць за свой кошт, разам з тым само своечасова не атрымлівае заработную плату.***

— Уплата плацяжоў у Фонд сацыяльнай абароны насельніцтва ажыццяўляецца ў парадку, устаноўленым заканадаўствам. Яны выкарыстоўваюцца для стварэння дабрабыту сацыяльна неабароненым слаям насельніцтва. Уплата страхавых узносаў лічыцца першачарговай, як і зарплата, і падаткі ў бюджэт.

**Гутарыла Таццяна БАРАДЗІНА.**

## Чалавек і яго справа



***З 1966 года звязала свой лёс з раённым вузлом электрычнай сувязі Валянціна Максімаўна Каранкевіч. Увесь гэты працяглы час працуе на прадпрыемстве электраманцёрам. Значны вопыт практычнай работы, глыбокія прафесійныя веды і такія якасці, як адказнасць, дакладнасць і акуратнасць ва ўсім, добразычлівасць, дапамагаюць ёй у працы.***

***Як чалавека вялікай душы, цвёрдых маральных прынцыпаў, В.М.Каранкевіч паважаюць у калектыве, які для яе стаў родным, яе адносінамі да даручанай справы задаволена кіраўніцтва. Як адзначыў пры размове начальнік РВЭС А.С.Ткачоў, ні ў якой сітуацыі Валянціна Максімаўна не падвядзе, абавязкова знойдзе аптымальны варыянт для вырашэння праблемы. Ахвотна дзеліцца жанчына набытымі навыкамі з моладдзю, агітуе паступаць вучыцца. І ў першую чаргу называе Віцебскі электратэхнікум сувязі, які ў свой час заканчвала сама.***

**На здымку:** ***В.М.Каранкевіч на рабочым месцы.***

**Фота Івана Лукановіча.**

## Куток спажыўца

# ПРА ЯЙКІ І НЕ ТОЛЬКІ...

***"У магазіне выпадкова закрануў локцем латок з яйкамі, якія стаяў на прылаўку. Яйкі разбіліся, узнікла спрэчка. Я растлумачыў, што ўсё адбылося не наўмысна, прадавец патрабавала заплаціць. Хто быў правы ў гэтай сітуацыі?"***

**В.Бяляўскі.**

Правыя былі вы. У дадзеным выпадку дзейнічае артыкул 141 Грамадзянскага кодэкса РБ "Рызыка выпадковай страты". Сэнс яе ў наступным. Урон за выпадкова пашкоджаную (а таксама знішчаную) у ходзе куплі-продажу рэч прымае на сябе яе ўладальнік. Яйкі вы не куплялі,адпаведна, належалі яны магазіну. Апошні і павінен быў запісаць разбіты латок сабе ў страты. У наступны раз, калі вы зноў нешта выпадкова разаб'еце, адстайвайце вашы правы да апошняга.

* * *

***"Набыла ў магазіне дыетычныя курыныя яйкі першай катэгорыі. Але яны здаліся мне дробнымі, я вырашыла ўзважыць дзесятак. Агульная вага склала 455 грамаў. Да якой катэгорыі могуць адносіцца яйкі з такой вагой?"***

**Т.Шчэрбіч.**

Курыныя харчовыя яйкі бываюць дыетычныя і сталовыя. Дыетычныя — гэта тыя, тэрмін захоўвання якіх 7 сутак, не лічачы дня, калі яны былі знесены. Сталовыя яйкі — тыя, тэрмін захоўвання якіх не перавышае 25 сутак з дня сартавання, і яйкі, якія захоўваліся ў халадзільніку не больш 120 сутак. Дыетычныя яйкі маркіруюць чырвонай, а сталовыя — сіняй фарбай, дазволенай да прымянення для харчовых мэт Мінздравам РБ. Для дыетычных яек указваецца катэгорыя і дата сартавання (чысло, месяц), для сталовых — толькі катэгорыя.

Дыетычныя і сталовыя яйкі дзеляць на тры катэгорыі: адборная (0), першая (1), другая (2) у залежнасці ад масы. Для адборнай маса аднаго яйка павінна быць не менш 65г, для першай — 55г, для другой — 45г. Маса дзесятка яек адборнай катэгорыі — не менш 660г, першай — не менш 560г, другой — не менш 460г.

Яйкі сталовыя масай 35-45г выпускаюцца пад назвай "Дробныя". Яны выкарыстоўваюцца ў асноўным для прамысловай перапрацоўкі і ў сетцы грамадскага харчавання. Дапускаецца рэалізацыя дробных яек у рознічнай гандлёвай сетцы.

Дапушчальныя адхіленні ад мінімальнай масы аднаго яйка для ўсіх катэгорый не павінны перавышаць 1г, але маса 10 яек не павінна мець адхілення ў меншы бок.

Дапускаецца таксама рэалізацыя несартаваных дыетычных яек па масе ў фірменных магазінах птушкагаспадарак. Узважванне тут павінна ажыццяўляцца на вагах для статыстычнага ўзважвання з найбольшай мяжой 3 кг.

# УЛЮБЁНЫ Ў ЖЫЦЦЁ

Народная мудрасць сцвярджае, што праца чалавека корміць, а лянота — псуе. Агульнавядома таксама, што ў працы расце, развіваецца чалавек, фарміруецца як асоба, як грамадзянін. Працай ствараецца матэрыяльны дабрабыт, духоўныя і культурныя каштоўнасці. Добра разумее, засвоіў і пастаянна кіруецца гэтым прынцыпам у жыцці жыхар в.Любонічы Сямён Іванавіч Тарэлкін.

Доўгі час ён працаваў загадчыкам гаража ў мясцовым калгасе "Радзіма", а пасля — майстрам па падрыхтоўцы механізатарскіх кадраў, трактарыстаў-машыністаў у Любоніцкай сярэдняй школе. Акрамя асноўных абавязкаў Сямён Іванавіч вядзе тэхнічны гурток.

С.І.Тарэлкін улюбёны ў жыццё, сваю справу, моладзь, якой аддае веды і вопыт, душой хварэе за кожнага свайго вучня. І яны ўдзячны настаўніку і свайму класнаму кіраўніку. Яго выхаванцы, сёлетнія выпускнікі дзевятага класа, пасляхова здалі экзамены за курс базавай школы, а Надзея Баўтовіч і Аліна Матлах атрымалі пасведчанні асаблівага ўзору.

У сям'і Тарэлкіных трое дзяцей. Дочкі Іна і Вольга з залатымі медалямі закончылі сярэднюю школу, пасля атрымалі вышэйшую адукацыю. Сын Дзмітрый — адзінаццацікласнік. Сямён Іванавіч разам з жонкай Галінай Яфімаўнай, якая, дарэчы, працуе завучам у школе, выхоўваюць у сваіх дзецях пачуцці адказнасці, гонару і сумлення.

Вельмі прыемна, што побач з намі жывуць такія выдатныя людзі, як сям'я Тарэлкіных.

**Мікалай ДУКСІН,**
**выдатнік народнай асветы.**

## Жыццёвыя гісторыі

# ЛЁС НЕПРАДКАЗАЛЬНЫ

Здавалася, надвор'е было сугучным настрою Ірыны: вецер рваў з галавы шарф, дождж перамешваўся са слязамі на шчаках. Жанчына ішла па лужах, прахожыя абыходзілі яе, азіраючыся. І толькі калі апынулася яна ў цёмным незнаёмым завулку, схамянулася: куды я іду, дома ж застаўся сынок з гэтым вырадкам. Назад бегла, нібы параненая лань, у скроні стукала: толькі б нічога не зрабіў з Жэнечкам. Уляцела ў пад'езд, спынілася перад дзвярамі: у кватэры было ціха, толькі чуўся гук уключанага тэлевізара. Насустрач выбег сынок: "Мамачка, дзе ты была? Я так хваляваўся". Ірына прыціснула да сябе гэтага самага дарагога ў свеце чорнавокага чалавечка і заплакала наўзрыд. "Не, так больш нельга," — паўтарыўшы гэта некалькі разоў, Ірына сказала сыну: "Збірайся, Жэня, пераначуем у цёці Галі і паедзем да бабулі". Узяла самае неабходнае, у асноўным сынавы рэчы, зашпіліла чамадан, акінула позіркам ненавісны ложак, дзе ў нейкай нечалавечай позе, агідны да брыдоты, спаў п'яны муж.

Першым аўтобусам Ірына з сынам пакідалі вялікі горад. Яна сама сабе не верыла, дзе ўзяла сіл і рашучасці, каб вось так нечакана "адрэзаць" усё мінулае.



За вакном мільгалі лясы, палі, мірна спаў Жэня, а перад вачыма маладой жанчыны плылі ўспаміны. Здавалася, зусім нядаўна, закончыўшы музычнае вучылішча, прыехала па накіраванню ў абласны цэнтр. Атрымала пасаду метадыста пры Доме культуры завода, выдзелілі пакой у інтэрнаце. Работа прыносіла задавальненне. Часта ездзіла дамоў, дзялілася радасцю з маці. Падзялілася і тым, што сустрэла добрага хлопца, што ён прапанаваў выйсці за яго замуж. Маці радавалася за сваю дачку, але раіла, што спяшацца не варта, трэба лепш спазнаць жаніха. Ірына смяялася ў адказ, гаварыла, што Міхась — самы лепшы ў свеце. Бачыла маці, што дачушка закахана, як кажуць, "па вушы". Хай бы толькі пашчасціла ёй...

Ірына адразу прыйшлася да спадобы ў сям'і Міхаіла. Была яна і прыгожая, і спрытная ў рабоце. Свякруха ва ўсім дапамагала маладым, пакуль жылі з ёю. З цягам часу Міхась стаў мяняцца. Часта прыходзіў на падпіцці, гаварыў — так патрабуе служба. Нярэдка затрымліваўся на рабоце. Ірына толькі ціхенька плакала па начах. Свякруха спрабавала ўшчуваць сына, а ён злаваўся, крычаў, каб не ўмешвалася ў іхняе жыццё. П'янкі для яго станавіліся нормай, а ў такім стане ён абражваў Ірыну, гаварыў, што тая перайшла дарогу яго шчасцю, што ў яго была дзяўчына, якую ён і зараз кахае.

Калі завод выдзеліў Ірыне кватэру, і яны пераехалі, Міхаіл заняўся ўладкаваннем, навядзеннем парадку. Але праз некаторы час усё пайшло, як і раней. Зноў п'яныя папрокі ў адрас жонкі, зноў знявага. Шасцігадовы сын усё разумеў, часта прасіў бацьку не крычаць на маму. У адказ чуў п'яную лаянку.

Маці Ірыны здагадвалася аб яе жыцці-быцці, хаця тая ёй ніколі не скардзілася. Але ўсё ў дачкі на твары было напісана. Ды і песні, што на рабоце спявала са сцэны, былі надта пранікнёнымі, жаноцкімі, а калісьці яе галасок, нібы званочак, гучаў.

...Калі маці ўбачыла дачку і ўнука на парозе з чамаданам, спытала: "Назусім?" "Так, мамачка", — Ірына не плакала, колькі ўжо можна...

На работу ўладкавалася адразу, у сельскі Дом культуры. Жэня пайшоў у дзіцячы садок. Паволі жыццё ўваходзіла ў нармальнае рэчышча. Пра Міхася не ўспаміналa ды і не было чаго добрага нагадаць. А сабе дала зарок — ніводнага мужчыны для яе не існуе.

Неяк стала дрэнна Жэню, у бальніцы сказалі, што ў яго апендыцыт, патрэбна аперацыя. Перапалоханая Ірына страціла прытомнасць, а калі прыйшла ў сябе, убачыла доктара з бутэлечкай нашатырнага спірту ў руках. Ён ласкава ўшчуваў жанчыну: маўляў, што ж вы такая кволая, нельга так расстройвацца з-за дробязей, усё будзе добра. І сапраўды ўсё пайшло добра. Ірына па некалькі разоў у дзень бегала да сына, часта сустракала знаёмага ўрача. Ён ветліва вітаўся з ёй, распытваў аб справах. А калі Жэню выпісалі, і Ірына прыйшла яго забіраць, Сяргей Іванавіч праводзіў іх і, узяўшы жанчыну за руку, спытаў: "Няўжо я вас больш не ўбачу?" У Ірыны сэрца захлынула гарачая хваля, ёй было так хораша, здавалася, што сярод зімы зацвілі сады...

З таго часу мінула шмат гадоў. Ужо даўно Ірына з Сяргеем маюць унукаў, пасівелі скроні, але каханне і павага адно да другога заўсёды жывуць у іхніх сэрцах. Сын Ірыны стаў для Сяргея родным і любімым, яны нават падобныя: абодва высокія, статныя. Заўсёды былі заняты нейкімі справамі, Жэня вучыўся ўсяму ў Сяргея Іванавіча. Вырас ён добрым хлопцам, чулым да родных і блізкіх. Гэткая і іх дачка Святлана. Вывучыліся дзеці, свае сем'і займелі.

Сяргей Іванавіч часта затрымліваецца на рабоце, выязджае па вызавах, ён — вядучы хірург бальніцы, спраў хапае. А Ірына не засынае, чакае яго. Успамінае мінулае і дзякуе лёсу, што дапамог ёй знайсці сваё шчасце, сапраўднае і адзінае...

**Людміла ЛУКАНОВІЧ.**



***Навучанне ў Жыліцкім сельскагаспадарчым каледжы цесна звязана з практыкай. Праходзяць яе будучыя аграномы, фермеры, тэхнікі-тэхнолагі, вінаробы. Практыка на "студэнцкім агародзе", як яго называюць у Жылічах, ці ў калгасе, саўгасе садзейнічае лепшаму засваенню тэарэтычнага матэрыялу, выхоўвае ў рабят пачуццё любві да зямлі, да сялянскай працы, уменне прымаць самастойныя рашэнні, што вельмі важна.***

**На здымку:** ***будучыя тэхнікі-тэхнолагі (справа — налева) Ірына Міхальчанка, Хрысціна Ганчарова, Аляксандр Атрохаў і Наталля Донга ў час практыкі.***

**Фота Пятра Сурыновіча.**

# СЛУЖБОВЫ ЭТЫКЕТ

Чаму мы стамліваемся на рабоце? Ці толькі ад напружанасці, якой патрабуе справа сама па сабе? Стамляе чыя-небудзь неабавязацельнасць, неслужбовыя размовы, дробныя канфлікты, непрыемныя інцыдэнты. Няўменне паводзіць сябе так, як гэтага патрабуюць службовыя абставіны, адсутнасць добразычлівай павагі да таварышаў, стрыманасці, далікатнасці здольныя часам знізіць аўтарытэт работніка, нават маючага добрыя прафесійныя веды.

"Я з ім не спрацаваўся", — гэтае апраўданне розных службовых канфліктаў вельмі распаўсюджанае. А калі ж справа патрабуе сумесных дзеянняў, "спрацавацца" людзі павінны. І гэта магчыма, трэба толькі захацець. Няўжыўлівасць, амбіцыйнасць, упартасць часта тлумачацца недахопам выхавання, грэбаваннем элементарнымі нормамі службовага этыкету. Этыкет — гэта не фармальнасць, а неабходнасць.



З чаго пачынаецца службовы этыкет? Бадай што са знешняга выгляду. Дзелавы стыль — гэта падцягнуты стыль, не уступаючы ў спрэчку з модай, але і не ідучы па яе вастрыі.

Нельга абмяркоўваць падрабязнасці асабістага жыцця калег па працы. А як жа грамадская думка, спытаеце вы? На самой справе, этыкет патрабуе не гаварыць за спіной чалавека нічога такога, чаго вы не маглі б сказаць яму прама ў вочы.

Доўгія асабістыя размовы па службовым тэлефоне недапушчальныя. Зусім этычна такія размовы перарываць, але ў далікатнай форме, зрабіўшы забарону на такую балбатню асабістым правілам.

Тактычная форма адносін, адмаўленне ад непавагі, панібрацтва — абавязковыя патрабаванні службовага этыкету. Яны не адмяняюцца і тады, калі трэба выказаць незадавальненне ці пакрытыкаваць.

Уменне зрабіць заўвагу — тонкае ўменне. Ім павінен валодаць не толькі кіраўнік, але і любы член калектыву. У большай ці меншай ступені кожнаму трэба ацэньваць работу таварыша, абучаць маладых. Заўвага павінна быць кампетэнтнай, справядлівай па сутнасці, канструктыўнай, каб чалавек зразумеў, што ён зрабіў з памылкай і як яе выправіць. З'едлівасць, грубасць, узнагарода недарэчнымі эпітэтамі абражлівыя і таму дасягаюць мэты хужэй, чым заўвагі, зробленыя ў карэктнай форме.

Ці трэба ў дзелавых адносінах прытрымлівацца субардынацыі? Адказ адзін: "Безумоўна!" Не могуць быць забыты асаблівасці адносін паміж старэйшымі і маладзейшымі, мужчынай і жанчынай.

У кожным калектыве ёсць работнікі, больш іншых ведаючыя, на большае здольныя. Выхаваны чалавек ніколі не дазволіць сабе падкрэсліваць сваю перавагу.

Галоўны закон службовай этыкі — сяброўская ўзаемадапамога і падтрымка. Трэба ўмець радавацца поспехам іншых.

Выкананне службовага этыкету — гарантыя эфектыўнай работы, асабістага поспеху і аўтарытэту, і разам з тым поспеху ўсяго калектыву.

**Валянціна ПАЛЯШЧУК,**
**старшая медсястра хірургічнага аддзялення райбальніцы.**

## Школьнае лета

# АДПАЧЫВАЛІ І СПОРТАМ ЗАЙМАЛІСЯ

72 выхаванцы дзіцяча-юнацкай спартыўнай школы і 12 вучняў Жыліцкай сярэдняй школы адпачылі ў фізкультурна-спартыўным лагеры "Юнацтва", які працаваў на базе Жыліцкага сельскагаспадарчага каледжа. Весела і карысна прайшоў час для рабят. Згодна раскладу, яны трэніраваліся пад кіраўніцтвам трэнераў ДЮСШ, удзельнічалі ў шматлікіх спаборніцтвах па валейболу, піянерболу, футболу, лёгкай атлетыцы, велагонках, легкаатлетычнаму мнагаборству, у вольны час займаліся ў гуртку мастацкай самадзейнасці, двойчы выступалі з канцэртамі, адпачывалі на дыскатэках. Усяго не пералічыць.

Запомніліся рабятам экскурсіі ў спецыялізаваную спартыўную залу цяжкай атлетыкі, якую правялі выхавальніцы Наталля Леанідаўна Жураўлёва і Святлана Карпаўна Марозава. Выкладчык каледжа Леанід Рыгоравіч Самусеў пазнаёміў рабят з гісторыяй развіцця цяжкай атлетыкі ў Жылічах, назваў імёны сваіх выхаванцаў, якія сталі майстрамі спорту, а Аляксандр Барысёнак — майстрам спорту міжнароднага класа, абаранялі гонар не толькі раёна, а і вобласці, рэспублікі, СССР. Карыснай была экскурсія і ў мясцовы музей.

Важнае значэнне ў дзіцячых лагерах мае харчаванне. Гэты фактар набывае асаблівае значэнне ў лагерах фізкультурна-спартыўнай накіраванасці, дзе рабяты не толькі з усёй адказнасцю шліфуюць сваё спартыўнае майстэрства, а і выступаюць у спаборніцтвах. Але ў нашым лагеры праблема харчавання не стаяла. Яно было арганізавана з разліку 1800 рублёў на дзень, было збалансаваным, каларыйным. На сталах не пераводзіліся яблыкі, апельсіны, мандарыны, шакалад, пячэнне. А смачныя стравы гатавалі павары Ірына Уладзіміраўна Ганчарэнка, Вольга Мікалаеўна Сімановіч пад кіраўніцтвам загадчыцы сталовай Раісы Уладзіміраўны Семенчуковай, за што мы ўсе ім вельмі ўдзячны.

Мы ўдзячны кіраўніцтву раёна, якое змагло адшукаць неабходныя сродкі ў мясцовым бюджэце на рамонт пакояў. А гэта немалая сума. Удзячны дырэкцыі каледжа, якая ў кароткія тэрміны арганізавала правядзенне якаснага рамонту. Усё гэта дазволіла пасяліць у пакой па 3-4 дзіцяці.

Неўзабаве падкраўся час развітвацца. На апошняй лінейцы граматы і падарункі пераможцам разнастайных мерапрыемстваў уручыў трэнер ДЮСШ майстар спорту СССР па веласіпеднаму спорту Уладзімір Сцяпанавіч Бяляўскі.

**Валерый РУДЗЯНКОЎ,**
**начальнік лагера "Юнацтва".**



**Калектыў работнікаў стаматалагічнага аддзялення райбальніцы** выказвае глыбокае спачуванне **Зінаідзе Яфімаўне ПАТАПАВАЙ і яе СЯМ'І** з выпадку трагічнай смерці **ПЛЯМЕННІКА, СТРЫЕЧНАГА БРАТА Сашы.**

**Сем'і М.Р.Рудзько і І.К. Пятруша** выказваюць глыбокае спачуванне **Зінаідзе Яфімаўне ПАТАПАВАЙ і яе СЯМ'І** з выпадку трагічнай смерці **ПЛЯМЕННІКА, СТРЫЕЧНАГА БРАТА Сашы.**

**Калектыў работнікаў раёна электрасетак** выказвае глыбокае спачуванне **Уладзіміру Аляксандравічу ЖУРАЎЛЁВУ і яго СЯМ'І** з выпадку смерці **ЦЕШЧЫ, МАЦІ, БАБУЛІ.**

**Сем'і А.П.Маглюя, В.В.Булаха, А.Я.Зайцава** глыбока смуткуюць з выпадку трагічнай смерці **Вячаслава Паўлавіча ЖДАНОВІЧА** і падзяляюць вялікае гора **з яго ЖОНКАЙ, усімі РОДНЫМІ і БЛІЗКІМІ.**

**Жыхары дома №2 па вул.К.Маркса райцэнтра** глыбока смуткуюць з выпадку смерці **Вольгі Васільеўны НОВІКАВАЙ** і выказваюць глыбокае спачуванне **яе ДЗЕЦЯМ, УНУКАМ і ПРАЎНУКАМ.**

**Калектыў настаўнікаў і тэхработнікаў СШ №1 райцэнтра** выказвае глыбокае спачуванне **Людміле Аляксандраўне КРАЎЧАНКА і яе СЯМ'І** з выпадку дачаснай смерці **МУЖА, БАЦЬКІ.**

**Калектыў медыцынскіх работнікаў раёна** выказвае глыбокае спачуванне **фельчару-лабаранту Святлане Васільеўне АКУШЭВІЧ і яе СЯМ'І** з выпадку смерці **БАЦЬКІ, ЦЕСЦЯ, ДЗЯДУЛІ.**


**Рэдактар Пятро СУРЫНОВІЧ**

*Заснавальнікі:*
*Кіраўскі раённы выканаўчы камітэт,*
*Кіраўскі раённы Савет дэпутатаў,*
*рэдакцыя газеты "Кіравец"*

Рэгістрацыйны № 285.
Падпісана да друку ў 17 гадзін.

Наш адрас: *Рэспубліка Беларусь, 213940, Магілёўская вобласць, г. п. Кіраўск, вул. Пушкінская, 15.*
Тэлефоны: *рэдактар 21-2-63, намеснік рэдактара, адказны сакратар, аддзел грамадска-палітычнага жыцця 21-5-69, аддзелы аграпрамысловага комплексу і экалогіі, пісьмаў і сацыяльных праблем 21-5-35, бухгалтэрыя 21-4-76, спецыялісты настольна-выдавецкай сістэмы 21-3-93.*

*Аўтары апублікаваных матэрыялаў нясуць адказнасць за падбор і сапраўднасць фактаў.*
*Іх меркаванні не заўсёды супадаюць з меркаваннямі рэдакцыі.*
*Рэдакцыя пакідае за сабой права не ўступаць у перапіску з чытачамі.*

*Аб'ём — адзін друкаваны аркуш*
*Газета выходзіць у сераду і суботу на беларускай мове.*
*Індэкс газеты - 64077. Заказ 3540.*
*Бабруйская ўзбуйнёная друкарня імя Непагодзіна, вул. Сацыялістычная,103.*
*Друк афсетны. Тыраж ліпеня 2777.*